# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (784) ГОД XVI БЕЛАСТОК 7 САКАВІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

## ЖАНЧЫНЫ ПРА ЖАНЧЫН

Пару год таму назад з выпадку жаночага свята размаўлялі мы пра жанчын са старшынёй Ваяводскай рады жанчын у Беластоку Луцыяй Дэм'янюк. Хочам працягваць нашы размовы і ў гэтым годзе.

Сёння такую размову прапануем з Леакадзіяй Зіневіч, намеснікам старшыні Ваяводскай рады жанчын у Беластоку.

— Якая, на вашу думку, роля жанчыны ў сучасным свеце?

— Мне здаецца, што жанчына здабыла сабе ў нас вялікую і важную грамадскую і прафесіянальную пазіцыю. Здабыла давер як чалавек і працаўнік. А ў сям'і яе роля як маці аказалася галоўнай. Вельмі многа жанчын атрымала высокую адукацыю і адыгрывае вялікую ролю ў дзяржаўнай гаспадарцы.

— А справа з вёскай?

— На вёсцы бачу добрую рэч, калі СПР-ы стануцца поўнымі прафесіянальнымі школамі. Жанчыны на вёсцы будуць мець магчымасць здабывання кваліфікацыі. Прафесія сельскага гаспадара, які ўмее прадукаваць з зямлі — гэта высокае званне. Кожная адукацыя прыносіць жанчыне магчымасць авансу і гонар, а асабліва адукацыя, якая дае прафесіі, найбольш краіне патрэбныя, найбольш карысныя.

— Чаму мала жанчын з'яўляецца дырэктарамі і рознымі іншымі кіраўнікамі?

— Здаецца мне, цяжка было б жанчыне спалучыць працу прафесіянальную з працай у хаце, ды яшчэ кіраваць.

— Значыць, вы хочаце сказаць, што жанчыны самі не вельмі кваляцца да дырэктарскіх крэслаў?

— Думаю, што так. Хоць жыццё націскае — і на жанчыну часта прыпадаюць кіраўнічыя абавязкі. Наймацней гэта відаць у асвеце, дзе найбольш жанчын на кіраўнічых пасадах.

— Жанчыны на такіх пасадах здаюць экзамен? Мне здаецца, што так.

— Ёсць апінія пра жанчыну як працаўніка: што вельмі дакладная, пільная, абавязковая.

(Працяг на стар. 4)



*У НАШЫХ ЛІЦЭЯХ. На занятках гуртка жывапісу ў беларускім ліцэі ў Бельску.* *Фота Цаф — Сянько*

*З НАГОДЫ МІЖНАРОДНАГА СВЯТА ЖАНЧЫН УСІМ ЖАНЧЫНАМ, А АСАБЛІВА АКТЫВІСТКАМ БГКТ, ШЛЕМ САРДЭЧНЫЯ ВІНШАВАННІ І ПАЖАДАННІ ПОСПЕХАЎ У ЖЫЦЦІ І ПРАЦЫ.*

*ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 20-га лютага гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з партыйнымі і адміністрацыйнымі ўладамі павета адзначыў 53-юю гадавіну Савецкай Арміі. Па запрашэнню аддзела на гэтыя ўрачыстасці прыехаў прадстаўнік паўночнай групы Савецкай Арміі ў Польшчы палкоўнік Афанасій Кляментавіч Калмыкаў і два прадстаўнікі Войска Польскага палкоўнікі — Ян Анацік і Тадэўш Чайкоўскі з Беластока. У Нараўцы ў сустрэчы з насельніцтвам прынялі ўдзел палкоўнікі А. Калмыкаў і Т. Чайкоўскі, працаўнік павятовага камітэта партыі Э. Лясота і сакратар праўлення аддзела В. Бура. У Навасадах з школьнай моладдзю і бацькоўскім камітэтам сустрэўся палкоўнік Я. Анацік і старшыня праўлення аддзела А. Іванюк.

У Дубінах на ўрачыстай акадэміі выступілі з прамовамі кіраўнік школы Я. Гарустовіч, палкоўнікі А. Калмыкаў і Т. Чайкоўскі, а таксама старшыня ГП БГКТ М. Хмялеўскі. Прысутнічаў на акадэміі таксама палкоўнік Я. Анацік старшыня ПРН М. Самоцік, старшыня аддзела А. Іванюк, прадстаўнік інспектарата асветы В. Базылюк і іншыя. Ва ўсіх мясцовасцях пасля ўрачыстых пасяджэнняў была багатая мастацкая частка.

■ 21-га лютага з удзелам прадстаўнікоў Савецкай Арміі адбылася акадэмія ў памяшканні Галоўнага праўлення, якую арганізаваў гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку. З дакладам выступіў член ГП В. Баршчэўскі. У мастацкай частцы выступілі акардэаністы з музычнага курсу, які існуе пры аддзеле, харавы калектыў аддзела і эстрада «Лявоніха».

■ 21-га лютага беластоцкі павятовы аддзел БГКТ у Гарадку правёў эліміацыі на беларускую песню — 71. Прыступіла да іх 26 асоб. Першае месца заняла салістка Люба Лукашэвіч, другое — Ніна Мушынская, а трэцяе — Надзя Ярмоліч.

У партыі дуэтаў найлепей спявалі Зося Пашкоўская і Ірэна Кардаш, другое месца занялі Галена Кот і Ірэна Паўлючук і трэцяе месца — Люба Лукашэвіч і Жэня Мартэнчук. З вакальных калектываў першае месца прызнана гарадоцкаму калектыву, а другое вакальнаму калектыву з Пянькоў. (мс)

## XV ГОД
## ДЗЕ ЖАНЧЫНЫ ПРАЦУЮЦЬ

Галена Тапалянская 15 год працуе настаўніцай. Усе 15 — у Трасцянцы. Выпускніца беларускага класа педагагічнага ліцэя ў Бельску. Завочна закончыла беларускую філалогію на Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Родам з Нарвы. У школе ў Трасцянцы выкладае беларускую мову ў класах III—VIII.

— Вопыт у вас не малы. Што скажаце аб падручніках і праграмах па беларускай мове?

— Зацяжкія. Замнога непатрэбшчыны ў праграме па беларускай мове для пачатковай школы.

— Для прыкладу?

— Вось заданні, — як выбіраць кніжку ў бібліятэцы, як пісаць і адрасаваць лісты, як пісаць прашэнні і біяграфіі, практыкаванні ў сувязі з экскурсіяй ў тэатр. Навошта гэтыя паўтарэнні? Гэтаму ж самаму дзіця вучыцца па польскай мове. Па-беларуску мы пішам толькі ў «Зорку». Пра літаратуру зноў скажу вам. Яе вельмі мала. Я не хачу крытыкаваць наш аддзел асветы, мо гэтак усюды, але мы год таму зрабілі заказы і дагэтуль нават адказу няма. Не маем для навучання беларускай мовы аніякіх навуковых дапаможнікаў. Настаўнік гэтага прадмета пакінуты сам сабе.

— А пра падручнікі?

— На трэці і чацвёрты класы яны вельмі цяжкія. Ведаеце, занадта яны навуковыя, сухія. Дзяцей не зацікавіш такой кніжкай. Для параўнання, польская чытанка на трэці клас каляровая, многа практыкаванняў, малюнкаў, беларуская — чорная.



—А ўсё ж такі вы вучыце...

— Я выконваю сваё заданне. Маё заданне — прывіць любоў у дзяцей да беларускай мовы. Сказаць хачу, што «Ніва» дапамагае настаўніку ў гэтым. У нашай школе дзеці кожную пятніцу з нецярплівасцю чакаюць яе.

— «Ніве» таксама споўнілася 15 год. То мо вашы юбілейныя патрабаванні да яе?

— «Ніва» мяне не знервавала ніколі. Я «Ніву» ацэньваю высока. Паказвае яна наш раён. Людзі знаходзяць у ёй весткі пра свае вёскі. Больш бы пра людзей. Ёсць на вёсцы многа самаахвярных і адданых Беларускаму таварыству.

— І так вось дайшлі мы да справы найважнейшай — да таварыства. Ваша апінія пра БГКТ?

— Яно наогул за 15 год сваё заданне споўніла. Нарадзіла ў людзях агульны ўздым да грамадскай працы, да карыснай дзейнасці. Абудзіла людзей. Засцярогу адну маю да арганізацыі, што не заўсёды спраўная. Напрыклад, цяжка арганізаваць сход гуртка. Мы ў сваёй вёсцы падпісалі цяпер супольны пратакол аб супрацоўніцтве паміж гуртком БГКТ, КГВ і ЗМВ у Трасцянцы. Ужо супольна рыхтуемся да адзначэння 15-ай гадавіны існавання БГКТ у Польшчы. Вечар наш будзе з мастацкай часткай і дакладам. Даклад на тэму 15-годдзя рыхтую я.

— А мастацкая частка?

— У ёй хочам паказаць старыя беларускія танцы, якія танцаваліся ў гэтай вёсцы калісьці. Іх помняць старэйшыя жанчыны: «Лявоніха», «Лысы», — я такога то і не чула ніколі, — «Каробачка»...

— Хвілінку, вашы жанчыны выцягваюць з забыцця старыя танцы. Паверце, гэта вестка, як страла!

Працяг на стар.4

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі



## СВЕТ

### ВЫСТУПЛЕННЕ ЛЭЙРДА

Міністр абароны ЗША М. Лэйрд зрабіў яўна неабгрунтаваную спробу абвергнуць паведамленні аб сур'ёзных няўдачах амерыкана-сайгонскіх агрэсараў у Лаосе. Выступаючы ў мінулым тыдні на прэс-канферэнцыі ў Пентагоне, Лэйрд усяляк выхваляў леташняе ўварванне амерыкана-сайгонскіх войск у Камбоджу.

«Аптымістычныя» запэўненні Лэйрда не зрабілі, аднак, уражання на мясцовых аглядальнікаў. Сцвярджаюць яны, што ўрадавая ацэнка сітуацыі ў Лаосе супярэчыць паведамленням з поля бою, якія ўказваюць на «ўпарты характар баёў і цяжкія страты» ў радах амерыкана-сайгонскіх войск. Ды і сам Лэйрд быў вымушаны прызнаць, што ў Лаосе «даводзіцца весці жорсткія баі з моцным і рашучым праціўнікам».

### ВАЕННЫ БЮДЖЭТ

Англійская ваенная праграма на новы 1971/72 фінансавы год была аб'яўлена ў форме Белай кнігі ў Лондане.

Прамыя ваенныя расходы вызначаны Белай кнігай у суме 2.545 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Аднак фактычныя ваенныя затраты, якія часткова праводзяцца па бюджэтах іншых міністэрстваў, у новым фінансавым годзе на справе перавысяць 3 мільярды фунтаў. Павялічваючы ваенны бюджэт на 265 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, урад плануе ў той жа час «сэканоміць» 217 мільёнаў, скараціўшы расходы на жыллёвае будаўніцтва, павысіўшы цэны школьных сняданняў, плату за рэцэпты на лякарствы і т.п. Такім чынам відавочна, што прынцып «гарматы замест масла» зноў пакладзен у аснову ваеннай праграмы Лондана.

### ІТАЛЬЯНСКІЯ КІРАЎНІКІ Ў ЗША

Кіраўнік італьянскага ўрада Э. Каломба і міністр замежных спраў А. Маро адбылі паездку ў ЗША, дзе абмяркоўвалі з прэзідэнтам Ніксанам і іншымі амерыканскімі дзеячамі праблемы міжнароднай палітыкі. Італьянскі друк востра рэагаваў на публічныя заявы дзяржаўнага сакратара ЗША Роджэрса аб тым, што «Італія стаіць на перадавой лініі барацьбы супроць камунізма» і што Каломба запэўніў сваіх амерыканскіх субяседнікаў, што кіруючая ў Італіі кааліцыя не дапусціць камуністаў да ўдзелу ў кіраўніцтве дзяржаўнымі справамі. Гэтыя заявы былі тут расцэнены як доказ самага бесцырымоннага націску і недапушчальнага ўмяшання Вашынгтона ва ўнутраныя справы Італіі.

### НОВЫЯ АЎТОБУСЫ

На венгерскім заводзе «Ікарус» створаны два новыя тыпы аўтобусаў. Адзін з іх «Ікарус-225» прызначан для міжнародных зносін. У другой палавіне сёлеташняга года гэты аўтобус пройдзе выпрабаванні на дарогах Венгрыі, ГДР і Савецкага Саюза.

Цяпер канструктары прадпрыемства працуюць над чатырма новымі тыпамі аўтобусаў «Ікарус». (ак)



## БССР

### XXVII З'ЕЗД КПБ

22—24 лютага г.г. адбыўся ў Мінску XXVII з'езд Камуністычнай партыі Беларусі. Меў ён наступны парадак дня:

1. Справаздачны даклад Цэнтральнага камітэта КП Беларусі, з якім выступіў першы сакратар ЦК КП Беларусі тав. Машэраў П. М.
2. Справаздачны даклад рэвізійнай камісіі КП Беларусі, з якім выступіў яе старшыня тав. Кананові́ч І. С.
3. Аб праекце Дырэктываў XXIV з'езда КПСС па пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады дакладваў Старшыня Савета Міністраў БССР тав. Кісялёў Ц. Я.
4. Выбары Цэнтральнага камітэта КП Беларусі.
5. Выбары рэвізійнай камісіі КП Беларусі.

Пасля шматгадзінных спрэчак з'езд аднагалосна прыняў асноўныя дакументы: Справаздачны даклад ЦК КПБ і даклад «Аб праекце дырэктываў XXIV з'езда КПСС па пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады». Гэтыя дакументы даюць усебаковую ацэнку дасягненняў партыі ў кіраванні камуністычным будаўніцтвам у рэспубліцы і вызначаюць новыя рубяжы, да якіх маюць імкнуцца працоўныя Савецкай Беларусі.

24 лютага ў тайным галасаванні дэлегаты з'езда выбралі членаў і кандыдатаў у члены Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі і рэвізійную камісію КП Беларусі.

Канчаючы працу, з'езд пад бурныя апладысменты прыняў пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС, у якім між іншым гаворыцца: «Мы, дэлегаты XXVII з'езда Камуністычнай партыі Беларусі, ад імя чатырохсоттрыццацітысячнай арміі камуністаў рэспублікі і ўсяго беларускага народа горача вітаем баявы штаб нашай слаўнай ленінскай партыі — Цэнтральны Камітэт КПСС — і выказваем пачуцці бязмежнай адданасці справе партыі, справе вялікага Леніна. (...) Мы рады далажыць (...), што працоўныя рэспублікі пад кіраўніцтвам КП Беларусі дабіліся новых буйных дасягненняў у развіцці эканомікі і культуры. На працягу восьмай пяцігодкі прамысловасць Беларусі працягвала развівацца высокімі тэмпамі, уведзены ў строй новыя заводы і камбінаты, значная работа праведзена па рэканструкцыі і мадэрнізацыі прадпрыемстваў вядучых галін...»

Таксама 24 лютага адбыўся пленум нававыбранага Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі. Ён выбраў бюро і сакратарыят ЦК КПБ. Першым сакратаром ЦК КПБ выбран тав. Машэраў П. М., другім сакратаром выбран тав. Сурганаў Ф. А., сакратарамі ЦК КПБ выбраны тт. Кузмін А. Т., Міцкевіч У. Ф., Смірноў А.А. Яны, зразумела, з'яўляюцца таксама членамі бюро ЦК КПБ. Апрача іх у складзе бюро знаходзяцца: Кісялёў Ц. Я., Кляцкоў Л. Т., Лабанок У. Е., Палякоў І. Я., Полазаў М. Н., Прытыцкі С. О.

Працоўныя БССР работу з'езда сваёй партыі прывіталі павышанымі прадукцыйнымі тэмпамі. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ПРАФСАЮЗЫ

24—25 лютага адбыўся XXI Пленум Цэнтральнай рады прафсаюзаў, прысвечаны паляпшэнню стылю і метадаў працы прафсаюзаў у святле пастаноў VIII Пленума ЦК партыі. Пленум прааналізаваў найважнейшыя элементы сацыяльнай праграмы дзяржавы, у рэалізацыі якой актыўны ўдзел будуць прымаць прафсаюзы.

З уступным дакладам на пленуме выступіў старшыня Цэнтральнай рады Уладзіслаў Кручэк. Прамоўца сцвердзіў, што крытыка з боку рабочага класа паказала, што прафсаюзы не выконвалі належна сваёй асноўнай ролі — прадстаўніка інтарэсаў і абаронцы правоў рабочага класа. За памылкі гэтыя прафсаюзы нясуць поўную адказнасць.

«Прафсаюзы на прадпрыемстве, — сказаў тав. У. Кручэк, — павінны класці галоўны націск сваёй працы на сацыяльныя ўмовы рабочых калектываў, на ўмовы працы і адпачынку, на міжлюдскія адносіны, на развіццё культуры і асветы. Зараз найбольш пільным заданнем прафсаюзаў з'яўляецца вырашэнне на прадпрыемствах — супольна з рабочым самакіраваннем і гаспадарчай адміністрацыяй — найбольш пільных спраў, прадстаўленых рабочымі калектывамі. У далейшым плане найбольш пільнымі праблемамі прафсаюзаў будзе справа месц працы, удасканальванне сістэмы заработкаў, кантроль у галіне коштаў утрымання, а таксама ў галіне цэн тавараў і паслуг».

Пасля даклада старшыні Цэнтральнай рады на пленуме разгарнулася ўсебаковая дыскусія над метадамі працы прафсаюзаў. Адной з асноўных праблем дыскусіі была правасуднасць. Пашана законаў права, як сцвярджалася на пленуме, павінна быць адной з асноўных мэт выхаваўчай прафсаюзнай дзейнасці.

Пленум ЦРЗЗ прыняў чатыры пастановы. Першая, праграмная пастанова сцвярджае, што Пленум Цэнтральнай рады поўнасцю прызнае і падтрымлівае праграму, прынятую на VIII Пленуме ЦК партыі, і што ўвесь прафсаюзны рух будзе прымаць актыўны ўдзел у яе рэалізацыі. Другая пастанова датычыць змен у стылі і метадах прафсаюзнай працы. Наступныя дзве пастановы датычаць падзелу сродкаў фонду прадпрыемства за 1970 год і справы прызначэння з інвестыцыйных сродкаў ЦРЗЗ сумы 300 мільёнаў злотых на фінансавую дапамогу прадпрыемствам, у якіх сацыяльна-бытавыя праблемы патрабуюць хуткага вырашэння.

Пленум правёў змены ў складзе кіраўніцтва прафсаюзнага руху. У Цэнтральную раду было ўведзена 10 новых асоб — рабочых, майстроў, тэхнікаў і г.д. Наменнікам старшыні Цэнтральнай рады выбраны Яўгеніюш Грахаля, а сакратаром — Мечыслаў Град. Пленум прыняў просьбу аб звальненні з пасады датагачаснага намесніка старшыні ЦРЗЗ Вацлава Туладзецкага, які перайшоў на пенсію, і сакратароў ЦРЗЗ — Веслава Коса і Віктара Абалевіча, якія перайшлі на іншую работу. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### СУСТРЭЧА З МОЛАДДЗЮ

26 лютага ў «Фастах» адбылася нарада актыву рабочай моладзі Беласточчыны. Нарада была прысвечана абмену вопытам, а таксама акрэсленню месца, стылю працы і заданняў моладзі непасрэдна ў вытворчасці, абапіраючыся на пастановы VIII Пленума ЦК ПАРП і XII Пленума ГП ЗМС. З моладдзю сустрэліся I сакратар ВК партыі А. Лашэвіч і сакратар ГП ЗМС Я. Май.

Тав. А. Лашэвіч пазнаёміў прысутных з тэматыкай VIII Пленума ЦК партыі, шмат увагі ўдзяліў народнай гаспадарцы і будаўніцтву. Каб вярнуць раўнавагу нашай гаспадарцы, сцвердзіў I сакратар, неабходна як найлепш выкарыстаць існуючую прамысловую базу.

Тав. Я. Май у сваім выступленні да ЗМС-аўскай моладзі падкрэсліў, што неабходны бліжэйшы кантакт праўленняў з маладымі рабочымі непасрэдна ў вытворчасці. Галоўнае заданне цяпер — мабілізацыя моладзі да больш прадукцыйнай працы і лепшае грамадскае і палітычнае выхаванне.

### ПРАЦУЮЦЬ ДАДАТКОВА

Калектывы беластоцкіх прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў далей бяруць на сябе вытворчыя абавязацельствы для падтрымкі палітыкі партыі і ўрада. Беручы пад увагу рэальныя магчымасці, дзякуючы лепшай працы і павышэнню прадукцыйнасці працы рабочыя імкнуцца даць дадатковую прадукцыю на патрэбы рынку і хутчэй выканаць гадавы план.

Мінулая нядзеля, як і папярэднія, была для многіх беластоцкіх рабочых днём працы. У беластоцкай гуце шкла начная змена з суботы на нядзелю пасля заканчэння змены не пайшла дадому, а разам са сваім майстрам працавала далей. Працаваў таксама калектыў слесарскай майстэрні і многія работнікі адміністрацыі, якія былі патрэбны для абслугі вытворчасці.

### БОЛЬШ МЯСА І МАЛАКА

Справам развіцця жывёлагадоўлі на Беласточчыне, магчымасцям павелічэння вытворчасці малака і мяса для лепшага забеспячэння патрэб працоўных быў прысвечаны пленум ваяводскага камітэта ЗСЛь. На пленуме гаварылася аб шырокіх рэзервах нашай сельскай гаспадаркі, аб магчымасці даць больш мяса і малака, чым прадугледжваюць планы, шмат увагі было прысвечана клопатам нашых сялян і іх патрэбам.

### НОВЫЯ МЕСЦЫ ПРАЦЫ

У Беластоку будзе новая фабрыка — філіял Варшаўскай тэлевізійнай фабрыкі «Тэльза». І гэта не недзе ў далёкай будучыні, а ўжо ў бліжэйшыя месяцы. Для фабрыкі прызначаны нядаўна пабудаваныя будынкі ў Старасельцах. Фабрыка будзе вырабляць дэталі для тэлевізараў. Ужо на першым этапе на фабрыцы будзе працаваць 300 чалавек. Частка іх ужо выехала ў Лодзь на здабыццё кваліфікацый. Першую прадукцыю фабрыка дасць ўжо ў чэрвені. У далейшым развіцці прадпрыемства на фабрыцы будзе працаваць 1200 рабочых у тым ліку каля 70% жанчын. (яч)




**NIEDZIELA 7.III.**

7.45 Program dnia. 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Przygotowanie zwierząt do okresu pastwiskowego". 8.25 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TV Klub Śmiałych. 11.10 Gra Orkiestra TV Katowice pod dyr. I. Wikarka. 11.30 „Budapeszteńska wiosna" — program TV Węgierskiej i TVP. 11.55 Dziennik. 12.10 „Maurice Ravel" („Wielcy twórcy muzyki"). 12.45 „Pan Anatol w opałach" („W starym kinie"). 13.45 „Przemiany". 14.15 „Obowiązek lekarza" — film TVP („Doktor Ewa") odc. IV. 15.00 Teatr Młodego Widza: A. Korta — „Pierścień szkutnika". 15.40 „Piórkiem i węglem". 16.05 „Piosenka dla Ciebie". 17.05 „Wielka gra". 18.00 PKF. 18.10 Niedzielny Teatr TV: „Książę Pepi". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Polska — NRD (III tercja). 20.45 „Dwie mamy, dwóch ojców" — film fab. jug. 22.20 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 8.III.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 „Oferty". 18.00 „I Ty będziesz moją panią" — film muz. TVP. 18.15 „Eureka". 18.45 „Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Scena Prozy: „Bogumił i Barbara" wg I tomu „Noce i dnie" M. Dąbrowskiej. 21.15 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Mecz Polska — Szwajcaria. 21.40 „Rozmowy o książkach". 22.30 Dziennik.

**WTOREK 9.III.**

8.25 „Siedem tygodni wśród lodów" — film fab. NRF („Italia nadaje SOS"). 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Tędy jechał generał...". 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi" (kłamstwo) Łódź. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — Z. Skowroński „Mistrz". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Wymiana nasion i sadzeniaków. 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.30 „Śpiewa Margarita Wojties" — film muz. radz. 18.45 „Express do Japonii" („Morskie spotkania"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Siedem tygodni wśród lodów" — film fab. NRF („Italia nadaje SOS"). 21.35 „Życie wśród słów" — rep. („Profile kultury"). 22.05 „Kino Filmów Animowanych". 22.40 Dziennik.

**ŚRODA 10.III.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Żółty skarb". 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Silnik i prądnica". 10.30 „Srebrna łyżka" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 12.45 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Aula". 17.00 Mecz piłki nożnej — ćwierćfinał „Pucharu Zdobywców Pucharów Górnik (Zabrze) — Manchester City. 18.50 „Srebrna łyżka" — film TV ang. („Saga rodu Forsytów"). 19.40 Dobranoc. 19.50 Dziennik. 20.40 Mecz piłki nożnej — ćwierćfinał Pucharu Europy: Atletico (Madryt) — Legia (Warszawa) (Madryt). W przerwie ok. 21.30 PKF. Po meczu ok. 22.30 Dziennik.

**CZWARTEK 11.III.**

8.15 Matematyka w szkole: „Elementy teorii grup" (zajęcia fakultatywne) cz. I. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Zanim powstało państwo polskie". 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Zwycięzca spod Chocimia i Wiednia". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — E. Orzeszkowa „ABC". 12.45 i 13.30 Mechanizacja rolnictwa „Mechanizacja prac przy obsłudze inwentarza" cz. I i II. 15.20 i 22.55 Politechnika TV I roku. Fizyka. „Potencjalne pole sił" cz. II. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 „Wydawnictwa proponują" 18.00 „Poligon". 18.30 TV Kurier Kielecki. 18.45 Koncert f-moll Fryderyka Chopina — grają laureaci VIII Międzynarodowego Konkursu Pianistycznego w Warszawie. 19.15 „Przypominamy; radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Mecz Polska — Norwegia. 22.15. Dziennik.

**PIĄTEK 12.III.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Silniki odrzutowe". 9.30 „Wdowa i kapitan" — film fab. węg. 11.05 „Przeoczenie" — film TVP („Doktor Ewa"). 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie plastyczne — „Grafika polska". 12.45 Dla szkół: (kl. I-III lic.) Przysposobienie obronne — „Dezaktywizacja, odkażanie i dezynfekcja". 14.50 Fizyka dla nauczycieli: „Elementy fizyki ciała stałego" cz. I. 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Grają orkiestry dęte". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 Wszechnica TV: Dr Ewa Potemkowska („Nasi uczeni"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przeoczenie" — film TVP („Doktor Ewa"). 20.40 „Kraj". 21.20 Teatr TV: M. Misiorny — „Doktor z karabinem". 22.30 Dziennik.

**SOBOTA 13.III**

9.10 „Morderca na zawołanie" — film. fab. NRD. 10.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) — Biologia „Pochodzenie i ewolucja człowiekowatych". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Gady". 14.40 Program dnia. 14.45 TV Kurs Rolniczy: „Wiosenne zabiegi agrotechniczne". 15.20 Program tygodnia. 15.40 „Oferty". 16.00 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Mecz Jugosławia — Polska. 18.20 „Tele-Echo". 19.00 „Optacy" — rep. („Spod znaku Rodła"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Runda" Scenariusz — J. Gruza i J. Fedorowicz. 21.40 Dziennik. 21.55 Wiadomości sportowe. 22.15 „Morderca na zawołanie" film fab. NRD.




**PIĄTEK, 5 marca**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla dzieci. 10.15 Puszkin. 11.00 Nowiny. 14.40 Program dnia. 14.45 Panorama nowin. 14.55 Uroczysta akademia poświęcona Dniu Kobiet i koncert świąteczny. 19.00 Czas. 19.30 Bajka dla dorosłych. 20.35 Koncert piosenki radzieckiej. 21.05 Kronika spartakiady. 21.20 Nowiny.

**SOBOTA, 6 marca**

8.15 Zdrowie. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Szkatułka muzyczna. 9.20 Nasza poczta. 9.50 Młode głosy. 10.30 Ziemia i ludzie. 11.00 Film fab. 12.40 Nowiny. 12.45 Uniwersytet ludowy. 14.15 Koncert estradowy. 15.00 Spektakl TV. 16.00 Nowiny. 16.05 W świecie zwierząt. 17.00 Program międzynarodowy. 17.30 Program rozrywkowy. 18.30 Filmy animowane. 19.00 Czas. 19.30 Panorama filmowa. 21.00 Śpiewa Wiktor Wujaczycz. 21.30 Kronika spartakiady. 21.45 Nowiny.

**NIEDZIELA, 7 marca**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Dla uczniów. 9.30 Białe i czarne. 10.00 Soliści baletu. 10.40 Dla żołnierzy. 11.10 Plany partii. 11.25 Spektakl TV. 13.15 Dla wsi. 13.55 Transmisja sportowa. 15.45 Walka trwa. 16.00 Nowiny. 16.05 Klub filmowy. 17.00 Koncert chóru chłopięcego. 17.20 Plany partii. 17.40 Program rozrywkowy. 19.30 Czas. 19.50 W eterze „Młodość".

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 147

АЛЕСЬ БАРСКІ

* * *

Досыць
не цягні мелодыі
ад вібрацыі зоркі пакрышацца
і рассыплюцца у пыле касмічным
досыць
бо голас парвецца
як струна у руках Паганіні.
досыць
досыць
бо шчасце
лопне на часці.

* * *

*Давай яшчэ раз затанцуем*
*пад скрыпкі салаўёў-паэтаў*
*пад зялёны раяль дубровы*
*давай яшчэ раз затанцуем*
*закружымся ў травы рынем*
*і дамо пачатак сыну*
*што у пульсах нашых б'ецца*
*як кроплі вады ў нетрах*
*як атамы ў бурным ветры*
*у травы рынем*
*і сплодзім сына.*



* * *

Давай узбярэмся ў купал царкоўны
і ў сэрцы свае як у звон ударым
каб людзі пачулі у наваколлі
нашую песню «авэ каханне»
і будзем пасля цэлай святыні
ўглядацца у твары мадон і прарокаў
і будзем правіць бласлаўленні Марыі
якая сэрцам жаночым
адобрыць каханне.

* * *

*Вы чалавек стары*
*і я вам аддаю пашану*
*і выслухаў я да канца*
*вашы закіды і папрокі*
*і крытыку сучаснага кахання*
*і мудрасць вашу памятаю*
*што грэх салодкім можа быць*
*як мёд з ліпнёвых вулляў*
*толькі ў тым я супроць вас*
*што грэх салодкім можа быць.*

* * *

Я пазнаёміўся з табой
і вакол свет зрабіўся каляровы
хоць у вачах і пацямнела
убачыў многа розных цудаў
зрабіўся чысты далікатны
як з фарфару кітайскага пасуда
скажы што кроплю з мяне вып'еш
зараз пральюся я да рэшты
скажы што возьмеш адно шкельца
дык на кусочкі разаб'юся.

*І. ЧЫКВІН*

## ВЯЗ

*Вязе мой слаўны, вязе вяковы,*
*І ты нешчаслівы у шапцы вяковай...*

*Брыдзеш ты па свету кульгавым карэннем,*
*Як факт аўтэнтычны, канкрэтна здарэнне.*

*І рукі скрыпяць у суставах старэчых,*
*І мову птушак стаў ты калечыць.*

*Зусім адзінокі, як нейкі філосаф,*
*Ты днём раўнадушны, а ноччу галосіш.*

*Бо як жа, бо як жа ўтрываць, мой дружа,*
*Калі шчэ жывы — калі ўжо не дужы.*

*Не дужы паветра збіраць у карэнні,*
*Свядомы, што рухне — ўпадзе на калені,*

*Свядомы, што хутка, што заўтра, што зараз*
*Жыццё праміне — непаўторна і велізарна...*

*Мой вязе з дзяцінства, з бацькоўскага краю,*
*Прыеду у вёску, цябе не пазнаю.*

*І ты мяне не пазнаеш таксама,*
*Убачыш — палічыш няпраўдай ці зманам.*



## УЗБЯРЭЖЖА

Ясна ноч тваёй душы
У ціхай прыстані пасцелі
І цячэнне ў цішы
Па ўсяму ўзбярэжжу цела.

Снілася ты мне ў вяках,
Набліжалася спатканне.
Як жа доўга я чакаў!
Як жа на сябе мы глянем!

А цяпер чысцейшую таім
Думку аб яднанні.
З патанаючых вачэй тваіх
П'ем не намі выдуманае
каханне.

Донна Марыя, Магдалена,
Клеапатра, Беатрычэ...
Адусюль імёны клічуць,
І за іх я на каленях...

Наша ноч ужо дышыць
Светаценнем, гукаграннем —
Ясны дзень тваёй душы
У ціхім сонным калыханні.

*П.С. Ці мучу — ці кахаю я каго? Жыццё, што кінула ты на вагу і важыш сёння? О, каб мог я адказаць сабе! Але адказаць ніяк я не магу...*

Л. ТАНКЕВІЧ

## ТЫ НЕ СТОЙ ПАД АКНОМ

Ты не стой пад акном,
Не тапчы мне мяты.
Я другога люблю,
Хоць ты нежанаты.

Я другога люблю,
Запрашу дахаты,
Ты не стой пад акном,
Не тапчы мне мяты.

Я чакаю яго,
Бо ідзе са сватам.
Ты не стой пад акном,
Не тапчы мне мяты.

Як пайду да яго,
Буду жыць багата.
Ты не стой пад акном,
Не тапчы мне мяты.

Што кахаеш мяне,
Я невінавата.
Ты не стой пад акном,
Не тапчы мне мяты.

Я чакала яго,
Аж засохла мята
Ты не стой пад акном —
Захадзі ў хату.

*ЯША БУРШ*

## ПЫТАННЕ

*Пытанне*
*ці на іншых*
*планетах*
*жывуць разумныя істоты*
*так*
*да сённяшняга дня*
*правы зямлі*
*непарушаныя*
*а тыя талеркі*
*няхай наглядаюць*
*караватасць чалавека*
*аднасна*
*прасторы*

## КЛОПАТЫ ДУМАК

Думкі навокал белай карткі
дзіцячым танцам
а пары
— гэты цвік тэхнічнага роду
супрацілянецца
людской адкрытасці
як бюракратычны цэнзар
на шалях што-калі
не піша
важыць словы

## БЕЛАСТОЦКІ ККМП

Беластоцкі карэспандэнцыйны клуб маладых пісьменнікаў існуе ўжо 6 гадоў. За гэты час арганізаваў ён шматлікія літаратурныя семінары з удзелам такіх вядомых пісьменнікаў, як Эрнест Брыль, Яўгеніюш Кабатц, Мечыслаў Яструн, Юльян Пшыбась, Станіслаў Граховяк і інш. Арганізаваў паэтычны турнір у Супраслі і аўтарскія сустрэчы ў вясковых клубах. Выдаў ён паэтычны альманах «Кшталты мыслі» і падрыхтаваў да друку наступны альманах прозы «Агароды». Беластоцкі ККМП на сваіх семінарах многа месца прысвячае творчасці нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы. З абмяркоўкай гэтай тэмы выступаў, між іншым, на семінарах доктар Аляксандр Баршчэўскі. У апошні час адбылася дыскусія над творчасцю паэтэсы Яніны Бжастоўскай з удзелам самой пісьменніцы. Клуб арганізаваў у мінулым годзе літаратурны вечар у клубе МПіК у Беластоку, на якім акцёры Тадэвуш Запаснік і Юрка Сех дэкламавалі вершы членаў ККМП. У гэтым годзе БОККМП супольна з Літаратурным настаўніцкім клубам і рэдакцыяй «Кантрастаў» аб'явіў літаратурны конкурс «Беласточчына ў 25-годдзі Народнай Польшчы».

*Я. Цялушэцкі*

*ЗОСЯ СТАСЬКЕВІЧ*

## БЯССОННІЦА

Не сплю, не сплю, не сплю...
Глыбокай, чорнай ноччу
Бубніць вада па трубах дажджавых,
Скуголіць вецер, быццам штосьці хоча
Сказаць аб нас, выключна нас дваіх,
Прыцік, пайшоў...
Вярнуўся, узрастае
І з сілай дзьме і лупіць у вакно!
З вачэй сваіх у жменю сон збіраю
І думаю... і думаю адно:
Дзе ты? І хто ты мне?
Ці можа між раўнінаў
Патокам чыстым у жыццё плывеш?
Ці можа сумнай песняй жураўлінай
Адыйдзеш і мяне не пазавеш?
Упартых думак рой адганяю,
Хачу забыць, што ты на свеце ёсць,
І раптам бачу...
Бачу гарэць як два агні,
У цемры глыбіні — вочы твае...
І ў душу заглядаюць мне глыбока,
Проста, як жаданы госць.
А ты? А ты, ці ў тую ноч таксама,
Ты думкі шлеш
За мною наўздагон?
Ці ты не спіш ўсю ноч, як я, да рана?
Ці мо трываеш прад начным экранам
І бачыш наш дзівосны сон?
Хачу сказаць табе маё жаданне:
Спусці мяне хоць раз з вачэй сваіх.
Не, не скажу... Нявіннае каханне
Зрабіла з нас нявольнікаў сваіх.

## ІДЗІ

*Ідзі на росстані дарог,*
*Вазьмі з сабою полымя кахання,*
*Пастаў яго на вецер без трывог —*
*Хай згасне, не дажыўшы да світання.*

*У светласці вачэй я бачу бліск агню,*
*Які распаліць сэрцы і сківіцы.*
*Не дакранайся жарам сваіх рук,*
*Нам нельга перайсці жыцця граніцы.*

*Ідзі далёка, пакуль паміж намі*
*Няма таго, што звыкла звацца небам.*
*Сваімі неспакойнымі вачамі*
*Мы аб сабе раскажам больш чым трэба.*

*Раскажам зорам, рэчкам, дрэвам, кветкам,*
*Птушкам, вятрам, лугам, лясам, палеткам,*
*А больш за ўсё — людзям на здавальненне,*
*Што пасвяць плёткамі нячыстае сумленне.*



## МАЛАДОСЦІ



Ты выйшла з светлых, ранішніх зарніц,
З блакітаў чыстых і бясхмарных небасхілаў,
Плыла патокам свежасці з крыніц
І жыццядайны мёд ў сабе насіла.
Цябе назвалі — Маладосць!
Бясцэнная ікона!
Цябе нясу ў думках прад сабой...
Ты, маладосць — жамчужына і гонар.
Шчаслівы той, хто мае воблік твой.
Ты — Маладосць!
Табе мая пашана.
Табе паклон да ног — самы глыбокі.
Я маю жаль к табе, чаму так рана
Кідаеш нас, бы здрадзіўшы пад бокам.
І што ж рабіць?
Затрымаць час? — Няўмольна...
Тады плывуць, як вадаспады — шумна,
А лёс — крумкач ласуецца табой
Свавольна і стыхійна!..
— Неразумна!

86.

лесе небяспечна: яны могуць раней заўважыць нас, як мы іх.

Віктару ўсё здавалася, што праход павінен быць там. Але, з другога боку, і разважанні Мірона былі слушныя. І Віктар пакуль што згадзіўся з ім.

На тым беразе, каля якога стаяла бабровая хатка, пачыналася высокая сухая града. Спачатку яна была вузкая і ішла ўздоўж бабровай ручаіны, а потым пашыралася і гублялася ў глыбіні вострава. На ёй рос прыгожы бор з рэдкімі стройнымі соснамі, а па баках ішлі зараснікі алешыны, арэшніку.

— Калі схавацца ў гэтым арэшніку, вось за той купінкай, — казаў Мірон, — дык мы будзем бачыць усю гэтую граду. Яны абавязкова павінны прайсці па ёй, калі пойдуць да свайго склада.

— Месца добрае, — сказаў Віктар. — Нам нават зручна будзе ісці па хмызняку за імі ўслед, бо па чыстым бары было б рызыкоўна.

Тут і вырашылі зрабіць назіральны пункт. Было крыху вільготна на зямлі, але хлопцы мелі дзве скуры.

— Давай зробім рэпетыцыю, — сказаў Віктар. — Я тут сяду, а ты прайдзіся па градзе і паглядзі, ці можна заўважыць.

Віктар сеў, а Мірон адышоўся крокаў на дваццаць убок. Арэхавыя сцяблы без галля дазвалялі досыць добра бачыць, што робіцца на градзе. А вось як адтуль?

— Ну, як? — нецярпліва запытаўся Віктар.

— Пачакай, — махнуў рукою Мірон і некалькі разоў прайшоўся ўзад і ўперад. Вярнуўшыся назад, ён сказаў: — Калі ведаць ці падазраваць, што там нехта ёсць, то заўважыць можна, а так, мне здаецца, не павінны звярнуць увагі, асабліва калі не рухацца.

— Ну і добра. А калі яны сунуцца, то ў нас жа ёсць чым сустрэць іх, — сказаў Віктар.

Калі скончылі з гэтай справай, пайшлі ўпарадкаваць свой лагер. Трэба было зрабіць усё так, як было раней.

— Раней тут рыба вісела, а цяпер — няма, — заўважыў Віктар.

— Гэта праўда, — задумаўся Мірон. — Дзе ж цяпер яе дастаць? Ты не памятаеш, колькі было?

— Рыбін з пяць. Але не можна быць, каб яны іх лічылі.

— Прыйдзецца тады павесіць некалькі рыбіных галоў і касцей. Можна ж падумаць, што іх птушкі падзяўбалі, жукі, чарвякі з'елі.

І яны пачалі развешваць рыбу.

— Каб хто-небудзь убачыў, што мы робім, — смяяўся Віктар, — то, напэўна, падумаў бы: здурнелі хлопцы.

А калі павесілі рыбныя рэшткі, то прыпомнілі: у будцы ж была яшчэ і палова зайца. Але ж з ім справа вырашалася прасцей: зайца лёгка мог дакончыць кожны драпежнік.

— Трэба толькі крыху касцей параскідаць навокал.

— А таксама ўбраць лішнія мядзвежыя і казуліны косці, — дадаў Мірон.

88.

— Гэта быў ніякі не горб, а рысь. Драпежніца ўскочыла ласю на карк і, напэўна, загрызла б яго, каб не мой стрэл.

— Адкуль ты ўсё ведаеш? — недаверліва спытаў Мірон.

— Хіба доўга зірнуць? Круглая кашэчая галава, кутасікі на вушах ды куртаты хвост — адразу можна пазнаць.

— Але ж, здаецца, і цябе зачапілі?

— Крыху штурханулі, але дарма: не кожнаму трапляецца так блізка пазнаёміцца з ласём.

—Вось табе і насарог! — засмяяўся Мірон.

— Толькі крыху не хапіла! — зарагатаў і Віктар. — Я цяпер ужо не здзіўлюся, калі сустрэнем і слана.

— Але наш гаршчок разляцеўся на кавалкі, — сказаў Мірон, збіраючы вугольчыкі.

— Тады спынімся тут. Калі тут жывуць такія звяры, дык, мусіць, гэта і будзе самае глухое месца.

Пад аховай шыракалапых елак расклалі яны вогнішча і доўга палілі, пакуль не набралася поўная яма жару.

— Заўтра яшчэ дадамо, а сёння пойдзем паспім апошнюю ноч у нашым родным будане.

XXI

**Бясконцае чаканне. — На кухні. — Сонныя вартаўнікі.**

Рашучы момант набліжаўся. Хлопцы хоць і храбрыліся, хоць і жартавалі, але кожны адчуваў, як унутры нешта дрыжыць. Ці прыйдуць яны ў гэты дзень? А можа, яны так сабе сказалі? А можа, прыйдуць праз тыдзень, праз месяц?

— Бывае ж на свеце так, што злейшых ворагаў прыходзіцца чакаць, як родных бацькоў! — злаваў Віктар.

— А можа, іх тут аж занадта набярэцца? Можа, у іх тут які бандыцкі з'езд прызначаны? — разважаў Мірон.

Як бы там ні было, а нічога не заставалася, як толькі чакаць.

На світанні пабеглі ў пушчу, падклалі ў свой запасны агонь дроў і са скурамі на плячах пайшлі на новае месца.

Ззаду застаўся асірацелы будан і халоднае вогнішча.

Забраліся ў свой арэшнік, парассцілалі скуры, натыкалі яшчэ сям-там галін, каб больш надзейна схаваць свой прытулак і пачалі чакаць.

Спачатку ў іх было адчуванне, што бандыты вось-вось павінны з'явіцца. Але міналі гадзіна за гадзінай, усё ціха і спакойна было навокал, і хлопцам пачало ўжо здавацца, што іх «збаўцы» ніколі не прыйдуць.

Каля поўдня Віктар не вытрымаў:

(Працяг са стар. 5)

# Народны пісьменнік Беларусі

вялікі, а па маленькаму звану, каб нават і вялікім молатам, гуку большага не будзе,» — зазначаў пісьменнік у адным з пасляваенных сваіх артыкулаў аб шляхах развіцця нашай драматургіі. Гэтая думка ў поўнай меры адносіцца да камедыі «Хто смяецца апошнім». У асобе Гарлахвацкага з гэтага твора ўзяты пад абстрэл значны сатырычны аб'ект, вельмі небяспечны «свінтус грандыёзус», які пры спрыяльных для яго акалічнасцях становіцца надзвычай агрэсіўным, нахальным, замахваецца ў першую чаргу на чэсных людзей. Гарлахвацкія, пачуўшы сваю сілу, пускаюць у ход палітычную дэмагогію, шантаж, застрашванне, а пры выпадку могуць нацягнуць на сябе маску добрага прыяцеля, чуллівага чалавека, гэтая маска часова павінна прыкрыць іх воўчыя зубы. Выкрываючы Гарлахвацкага, паказваючы яго прыёмы і метады расправы з людзьмі, драматург закранаў некаторыя грамадскія з'явы, звязаныя з парушэннем ленінскіх норм нашага жыцця ў сярэдзіне 30-тых гадоў, асуджаныя пазней партыяй.

Вялікую ўвагу прысвячае Кандрат Крапіва грамадскай дзейнасці. Ён дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, вядомы ў Беларусі і Савецкім Саюзе змагар за мір і дружбу паміж народамі. Актыўна займаецца пісьменнік навуковай працай. Яшчэ ў даваенны час ён быў выбраны членам-карэспандэнтам АН БССР, а з 1956 года з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам рэспубліканскай акадэміі. Кандрат Крапіва мае вучоную ступень доктара філалагічных навук, наогул узначальваў і цяпер узначальвае усю даследчую дзейнасць па мовазнаўству ў Акадэміі Навук Беларускай ССР.

Асабліва шмат часу і сіл патрабавала праца над Руска-беларускім і Беларуска-рускім слоўнікамі. Першы з іх пісьменнік рэдагаваў разам з народным паэтам Беларусі Якубам Коласам і Пятром Глебкам, а другі выйшаў пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы.

Агульнае прызнанне творчай дзейнасці Крапівы ў розных галінах беларускай нацыянальнай культуры знайшло сваё адлюстраванне ў тым знаменным факце, што яму афіцыйна прысвоена званне народнага пісьменніка Беларусі (1956). Гэты высокі тытул Кандрат Крапіва мае права насіць з вялікім гонарам, паколькі яго творы, асабліва ў жанрах сатырычнай прозы, паэзіі і драматургіі, даўно сталі народнымі.

*Дзмітры Бугаёў,*
*кандыдат філалагічных навук*



*Кандрат Крапіва з унукамі.*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

## ШТО-НЕБУДЗЬ З МАРСКОЙ РЫБЫ

На прадвесні — не сезон на салодкаводныя рыбы. Марскіх рыб аднак і цяпер не бракуе. І можна зрабіць з іх шмат розных, цікавых і смачных блюдаў. Напрыклад, з галібута. Мяса яго, як вядома, далікатнае, смачнае, мае ў сабе шмат тлушчу. Тлушч жа рыбы з'яўляецца вельмі лёгка страўны, а акрамя таго, спрыяе змяншэнню колькасці халестэролю ў крыві чалавека. Можна рабіць розныя патравы як з марожанага галібута, так і з капчонага.

З капчонага можна зрабіць салат. З капчонай рыбы знімаем скурку, вымаем косці. Мяса асцярожна, каб не рассыпалася, рэжам на малыя кавалачкі. Дадаем дробна нарэзаныя цыбулю, яблыка, зялёную пятрушку, спырскваем лімонным сокам, солім і пасыпаем перцам па смаку, вымешваем. Перакладаем ўсё ў салатніцу, паліваем маянезам, а ў сезоне, калі ёсць свежая гародніна, кладзем наверсе скрылёчкі памідораў.

З марожанага галібута можна зрабіць паніраваную рыбу. Перад тым, як смажыць рыбу, трэба з яе зняць скурку і выняць з яе пазваночнік, адным словам, зрабіць філе. Атрыманае філе спырскваем лімонным сокам. Так яно павінна паляжаць паўгадзіны. Далей рыбу солім, мачаем у муку, пасля ва ўзбітае яйцо і, нарэшце, — у молатыя сухары. Смажым рыбу на вельмі гарачым тлушчы. Добра было б падаць смажаны галібут са скрылёчкамі лімона, якія кожны можа выціснуць пасля на рыбу. Лімон дадае галібуту прыемнага смаку.

Таксама з марожанага галібута можна зрабіць рыбу запяканую. Паўкілаграма галібута размарожваем у вадзе, кладзем яго ў булён (можа быць з булённай косткі) і нядоўга абварваем, але так, каб рыба была амаль мяккая. Пасля гэтага адцэджваем яе, знімаем скурку, вынімаем косці, кроім на маленькія кавалачкі — кубікі.

Дзве маленькія цыбулькі дробна сячэм і падсмажваем на тлушчы, пакуль не стануць празрыстымі. Дадаем 20 дэкаў (200 г) пячарак (шампіньёнаў), нарэзаных скрылёчкамі і смажым, пакуль не выпарыцца сок. Усыпаем 2 лыжкі мукі і мяшаем 2 мінуты. Паўшклянкай смятаны, змешанай з паўшклянкай працэджанага булёну ці белага віна, заліваем усё тое, што смажылася на патэльні. Усё добра вымешваем. Дадаем соль, перац і сцёртую на тарцы мушкаталовую галку па смаку. Знімаем з агню, убіваем 2 жаўткі і дадаем некалькі кропель лімоннага соку. Змешваем з рыбай, перакладаем усё ў каструлю, пасыпаем молатымі сухарамі і галандскім (жоўтым) сырам. Ставім у духоўку і пячэм, пакуль запяканка не будзе мець залатога колеру.

Ежце рыбу, меню ваша будзе намнога багацейшае і больш разнастайнае.

*Гаспадыня*

# НА ПРУСКАЙ ГРАНІЦЫ

Гітлераўцы заўсёды хваліліся сваім «бліцкрыгам» — гэтымі маланкавымі войнамі, у выніку якіх на працягу трох гадоў (1938—1941) акупіравалі амаль цэлую Еўропу. Гаварылі яны, што аж да 1945 года — да апошніх месяцаў другой сусветнай вайны — ніводзін іншаземны салдат не змог пераступіць дзяржаўную граніцу III Рэйха.

Ці сапраўды было яно так?

Адказ на гэтае пытанне, адказ адмоўны, прыносіць кніжка *«Напрамак — Прусія»*. Апрацавалі яе Зыгмунт Каштыла, які з'яўляецца гісторыкам ваенных дзеянняў другой сусветнай вайны, і Кшыштаф Вуйтовіч — журналіст Беластоцкага радыё, былы афіцэр, які, між іншым, таксама спецыялізуецца ў гісторыі ваенных падзей на Беласточчыне. Кніжку пад канец мінулага года выпусціла масавым тыражом выдавецтва нацыянальнай абароны ў серыі з «Тыграм».

Аўтары расказваюць пра баявыя дзеянні самастойнай аперацыйнай групіроўкі «Нараў», якая была створана для аховы прыгранічнай зоны даваеннага Беластоцкага ваяводства. Групіроўкай камандаваў генерал брыгады Чэслаў Млот-Фіялкоўскі. У яе саставе знаходзіліся Падляшская і Сувальская брыгады кавалерыі — салдаты, якіх папулярна называлі «ўланамі».

І вось настаў гэты трагічны дзень. 1 верасня 1939 года а 4 гадзіне 45 мінут раніцы гітлераўская армія без ніякага папярэджання нарушыла дзяржаўную мяжу Польшчы. На прускай граніцы, дзе польскія ўланы размясціліся сярод лясоў і вёсак, першая ваенная ноч прайшла спакойна. Самастойная аперацыйная групіроўка «Нараў» атрымала ад Вярхоўнага камандавання станоўчы загад, каб у ніякім выпадку не пераходзіць на нямецкі бок. Дык кавалерыя праводзіла толькі разведку уздоўж граніцы. Пад вёскай Мышынец узвод падпаручніка Мармана выкрыў немцаў — таксама кавалерыстаў. Польскія ўланы адразу пайшлі ў атаку. Бой працягваўся ўсяго некалькі мінут. А пасля камандзір узвода ўланаў рапартаваў: ўзялі ў палон 30 нямецкіх кавалерыстаў, аднаго афіцэра і прыблізна сорак коней. Свае страты: два салдаты лёгка параненыя. Так закончылася першая сутычка з немцамі, якія на гэтым адрэзку дзяржаўнай мяжы ўварваліся на тэрыторыю нашай айчыны. У гэты ж самы дзень «шваležэры» ротмістра Кшышкоўскага ў заўзятым баі выкінулі яшчэ гітлераўцаў з прыгранічнай вёскі Бакалажэва. І толькі тады камандаванне дазволіла на баявыя дзеянні на тэрыторыі ворага.



*Падрыхтоўка да сезона.*

# РАЙСКАЕ

Што яно-гэта — не ведаю сам:
Нейкая выдумка, казка...
Жыў-быў на свеце хлапчына Адам,
Жыў без жаночае ласкі.

Петраў, як кажуць, бабыль бабылём,
Сохнуў з нудоты і суму,
Сяк-так за працай трываў яшчэ днём,
Ноччу ж не спаў, а ўсё думаў...

Дума няўтольная так дапякла,
Хоць выракайся ты раю.
Ледзь прачакаў бедалага святла,
Да бога прымчаўся, пытае:

«Колькі ж мітрэнгу ты будзеш цягнуць,
Хопіць ужо цяганіны,
Выраж урэшце маю рабрыну,
Толькі ствары мне жанчыну,

Толькі пакутаю больш не карай».
І паваліўся пад дрэвам...
Гляну назаўтра — заходзіць у рай,
І пасміхаецца Ева.

Кінуўся к дзеўцы... А чым частаваць?
Яблычкам, хіба, чырвоным?
Толькі тых яблык Адаму ірваць
Нельга было па закону.

І захадзіла бунтарства ў крыві,
Моцна ўзяло за жывое...
А тут і змей спакушае: «Ірві!
Ну...»
І хлапчына не ўстояў.

Не для сябе ж, а для Евы сарваў...
Бог жа... убачыўшы, у гневе
З раю чамусьці навек прагнаў
Толькі Адама і Еву.

Так у раі і застаўся той змей
Без пакарання зямнога.
Вось паспрабуй ты цяпер зразумей,
Чым там кіруюцца богі?...

*Алесь Бачыла*




# НІЎКА





*Ножкі...*

## Талаваломка



Сярод шаснаццаці фігур ёсць такія, што паўтараюцца некалькі разоў. Некаторыя з паўтараючыхся фігур паказаны ў розных становішчах.

Трэба акрэсліць групы, у якіх згуртаваны аднолькавыя фігуры.

* * *

*Адказ на папярэдняе заданне:*



### З ТУРЭЦКАГА

Жабрак сядзіць на тратуары і плача. Ідзе чалавек і пытае ў яго:

— Чаго ты плачаш?

— Плачу па сваёй жонцы. Каб яна была жывая, я не апынуўся б у такім становішчы.

— А што, ваша жонка была багатая?

— Ды не, але яна замест мяне хадзіла праціць.

### НА ВЯСЕЛЛІ

На вяселлі адна з жанчын гаворыць суседцы:

— Усё-такі ў маладой вельмі змучаны выгляд...

— Яшчэ б! Дык яна змагалася за гэта месца год дзесяць...

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Выконваем просьбу Валі С. і яе сябровак з Бельскага павета:

## ПЕСНЯ МАШИ

*Слова: Г. Поженяна*
*Музыка: А. Эшпая*

Ночь была с ливнями
И трава в росе.
Про меня «Счастливая»
Говорили все.

И сама я верила
Сердцу вопреки:
Мы с тобой два берега
У одной реки.

Утки все парами,
Как с волной волна,
Все подруги с парнями,
Только я одна.

Все ждала и верила
Сердцу вопреки:
Мы с тобой два берега
У одной реки.

Ночь была. Был рассвет,
Словно тень крыла.
У меня другого нет,
Я тебя ждала.

Все ждала и верила
Сердцу вопреки:
Мы с тобой два берега
У одной реки.



*Жаночы каляндар «Мара».*

### З ФРАНЦУЗСКАГА

— Паслухай, якая хвалюючая любоўная гісторыя, — казала пані Дзюран свайму мужу, чытаючы газету: — «Саракагадовы мужчына, не вельмі адукаваны, узяў сабе інтэлігентную жонку. Праз два гады пад яе ўплывам ён стаў славутым вучоным...».

— Гэта яшчэ нічога, — адказаў муж. — А вось я ведаю аднаго разумнага і добрага чалавека, які жаніўся на сапраўднай ідыётцы і праз два дні ператварыўся ў поўнага дурня.

### З АНГЛІЙСКАГА

У бюро знаёмстваў заходзіць жанчына. Шэф вымае альбом са здымкамі, выбірае адзін і паказвае кліентцы:

— Вось гэты мужчына будзе для вас самым добрым мужам.

— Дзякуй, але на гэта ў мяне ёсць свая думка: гэта якраз той мужчына, якога вы мне паралі пяць гадоў назад...

* * *

— Я вельмі нешчаслівы — жонка ў мяне маладая, але вельмі часта хварэе.

— Шчаслівчык! Мая вельмі старая, але яшчэ не ведае, што такое хвароба.

### ЦУДАДЗЕЙНАЕ ЛЯКАРСТВА

Адна жанчына расказвае знаёмай:

— Я дастала цудадзейнае лякарства.

— Ад чаго?

— Не ведаю. Але вельмі памагае.



*— Як ты думаеш, мама любіць курыныя катлеты?*

### 8 САКАВІКА

У Міжнародны жаночы дзень пані Кавальская прыйшла ва ўстанову, дзе ўжо доўгі час не могуць разгледзець яе просьбу.

— Спадзяюся, што сёння вы мне не скажаце: «Прыходзьце заўтра», — шматзначна гаворыць яна.

— Пэўна ж, у дзень 8-га сакавіка было б проста неразумна адмовіць вам у вашай просьбе. Таму, калі вам не цяжка, прыдзіце заўтра.

### ЗРАЗУМЕЛІ АДЗІН АДНАГО

— Прашу цябе, каханая, выходзь за мяне замуж, мы ж так падыходзім адзін аднаму...

— Ты ў гэтым упэўнены?

— Безумоўна! У мяне такі ж характар, як і ў цябе.

— О, тады нізавошта на свеце!

### З ІТАЛЬЯНСКАГА

Адна маладая жанчына ездзіла ў вясельнае падарожжа. Калі яна вярнулася, сяброўка спыталася ў яе, дзе яны ездзілі.

— Не ведаю, — адказала маладая жонка. — Муж сам купляў білеты.

* * *

Дачка скардзіцца сваёй маці:

— Ведаеш, мой муж вельмі часта мяне крыўдзіць.

— Як? — пытаецца маці.

— Ён кажа, што я ва ўсім падобна на цябе.

### ЭМАНСІПАЦЫЯ

Неяк я ажаніўся. Мы былі цудоўнай парай і важылі абодва 130 кілаграмаў. Яна — 50, я — 80.

Аднойчы мы позна вярталіся дадому.

— Ах, любы, я прытамілася, — сказала яна.

Я тут жа падхапіў яе на рукі і ўзляцеў на наш пяты паверх.

Прайшоў год.

Мы па-ранейшаму былі цудоўнай парай і па-ранейшаму важылі 130 кілаграмаў. Яна — 60, я — 70.

Аднойчы вярталіся мы дадому.

— Ах, любы, я прытамілася, — сказала яна.

Я ўзяў яе на рукі — і пайшоў з ёй на пяты паверх. Прайшоў яшчэ год.

Мы, як і раней, важылі 130 кілаграмаў. Яна — 70, я — 60.

Аднойчы мы вярталіся дадому.

— Ах, любы, я прытамілася, — сказала яна.

Я ўздыхнуў, падняў яе і за паўгадзіны неяк дабраўся да другога паверха. Там я папрасіў яе злезці.

І яшчэ прайшоў год.

Мы ўсё яшчэ важылі 130 кілаграмаў. Яна — 80, я — 50. Аднойчы мы вярталіся дадому.

— Ах, любая, як я прытаміўся, — чамусьці сказаў я.

І раптам... І раптам яна падняла мяне на рукі. І да самага пятага паверха я ўсхвалявана думаў аб тым, як добра, што мы, мужчыны, эмансіпіравалі жанчын.

*Аляксандр Аляксейчык*

### З НЯМЕЦКАГА

Ліза Мейтнер — першая ў Германіі жанчына-фізік змагла атрымаць вучоную ступень у пачатку 20-х гадоў. Назва яе дысертацыі «Праблемы касмічнай фізікі» нейкаму журналісту здалася неймавернай і ў газеце было надрукавана: «Праблемы касметычнай фізікі».

### З АМЕРЫКАНСКАГА

Найлепшы адказ у анкеце, праведзенай амерыканскай газетай на тэму «Жанчына і газеты»:

«Газетай, парэзанай на кавалкі, не цікавіцца ніводная жанчына, але жанчынай, парэзанай на кавалкі, цікавяцца ўсе газеты».

### НАВОШТА

— Мама, а навошта табе тата сёння падарыў кветкі? Каб ты яго слухалася?





*Жанчына раней і цяпер.*

# Курёзы

### НА ЎСЁ ЁСЦЬ СПОСАБ

Гэта было даўно... У тыя часы, калі Сесіль Сарэль іграла ў «Камедзі Францэз» і карысталася вялікім поспехам у ролі Салімены.

Як вядома, артысты «Камедзі Францэз» атрымлівалі невялікія аклады. Свае матэрыяльныя справы яны папраўлялі гастролямі за мяжой.

Гастралявала прынамсі два разы ў год і Сесіль Сарэль, прычым яна, як правіла, самавольна зацягвала свой водпуск.

Затрымаўшыся ў заграпічных гастролях, яна аднойчы, просячы прабачэння, прыслала дырэктару тэатра наступную тэлеграму: «Вымушана прадоўжыць тут свае гастролі. Цудоўны прыём. Трыумф нацыянальнай прапаганды. Няхай жыве Францыя!»

Дырэктар тэатра Эміль Фабр неадкладна адказаў такой тэлеграмай:

«У захапленні ад вашага поспеху. Віншую. Калі не вернецеся паслязаўтра, буду вымушан накласці штраф пяцьсот франкаў за кожны дзень спазнення. Няхай жыве Рэспубліка!»

Паслязаўтра актрыса была ў Парыжы.

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ СПАДЧЫНА

Ва ўзросце 85 гадоў у Нью-Йорку памерла Валеры Коўэн, пакінуўшы ў спадчыну свайму ўрачу, які на працягу 50 гадоў добрасумленна лячыў яе ад самых розных захворванняў, вялікі чамадан. Згараючы ад нецярпення, адданы лекар адкрыў чамадан і ўбачыў... на жаль, усё, што знаходзілася ў чамадане, складалі рэцэпты, якія ён акуратна выпісваў місіс Коўэн на працягу паўстагоддзя і якія яна ні разу так і не выкарыстала.




*Дрэнная жонка падобна на нейраджай шэсцьдзесят год запар.*